**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 44 (865) 3 лістапада 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Першы снег!**
Фота vv.com.ua



ISSN 2077-8023



### Віцебск

## Як адзіны механізм

■ Кастусь Александровіч

**З далёкіх часоў ва ўсім свеце адным з важнейшых шляхоў зносін застаецца чыгуначны транспарт.**

Наша Беларусь – не выключэнне, а днямі на Прывакзальнай плошчы абласнога цэнтра адбыліся ўрачыстасці з нагоды 150-годдзя Віцебскага аддзялення Беларускай чыгункі. Менавіта сюды такой жа самай восенню з Полацка прыбыў першы цягнік узведзенай Дынабурга-Віцебскай чыгункі. Калісьці на ёй працавалі каля ста стрэлачнікаў, пуцявых абходчыкаў, качагараў паравозаў і іншых спецыялістаў. Зараз такіх прафесій ужо няма, а ў калектыве толькі па гэтых двух буйных чыгуначных вузлах працуе больш 9 тысяч чалавек у 24 структурных падраздзяленнях і двух далучаных калгасах. Хуткасці руху цягнікоў выраслі ў 5 разоў, у бліжэйшы час паязды з мноствам грузавых і пасажырскіх вагонаў пачнуць ездзіць з хуткасцю да 140 км у гадзіну. Пра гэта даведаліся ўдзельнікі ўрачыстага юбілейнага мітынгу на вакзале, куды запрасілі шмат ветэранаў-пуцейцаў. Іх ушанавалі падарункамі, кветкамі, святочнымі буклетамі, а таксама песнямі і танцамі, феерверкам напрыканцы сустрэчы. Чыгуначнікі сваімі сіламі абсталявалі ў мясцовай дыстанцыі пуці свой невялікі музей. Дарэчы, у далёкім 1909 годзе менавіта ў Віцебску з'явілася першая на прасторах тагачаснай царскай Расіі аўтаматычная ўстаноўка стрэлак і падачы сігналаў з дапамогай электрычнасці. У святочны дзень, як і ў далёкім мінулым, аб прыбыцці новага цягніка засведчыў сімвалічны ўдар пазалочанага звана. У нашы дні магістраль жыве, развіваецца, а ў наступным годзе чыгунка абновіць яшчэ 5 сваіх станцый у глыбінцы, адну з якіх у Мёрах.

### Лёзненскі раён

## Другое жыццё школы

■ Станіслаў Раманчук.

**Па ўсёй краіне зараз стаяць зачыненымі шмат яшчэ добротных будынкаў былых школ, клубаў, ФАПаў, розных іншых аб'ектаў АПК і сацыяльнай сферы.**

Задача даць ім новае жыццё – няпростая, аднак яе ўсё ж неабходна вырашаць. Вось і ў райцэнтры Лёзна 3 гады назад вырашылі былую старую сярэднюю школу пасляваеннай пабудовы ператварыць у патрэбны людзям культурна-аздараўленчы цэнтр. Многае прадвырашыла, што адсюль родам былы глава вобласці, а цяпер старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка, які дамогся, каб аб'ект уключылі ў рэспубліканскую інвестыцыйную праграму. Ад старой пабудовы засталіся фактычна толькі сцены, а будаўнікі "Віцебскаблсельбуда" ўзвялі новае памяшканне, замянілі ўсе камунікацыі і інжынерныя сеткі. У Дзень маці ў райцэнтры ўрачыста адкрылі першую чаргу шматфункцыянальнага комплексу, у якім справілі наваселле цэнтральная раённая бібліятэка і бібліятэка для дзяцей, а таксама раённы Дом рамёстваў з выставачнай залай і пакоямі для працы народных майстроў, творчых гурткоў і гандлю сувенірамі. Частку памяшканняў у новым цэнтры аддалі мясцоваму фізкультурна-спартыўнаму клубу. У іх могуць трэніравацца выхаванцы ДЮСШ, а ўсе жадаючыя гуляць у настольны тэніс, займацца фітнесам. Пасля цырымоніі адкрыцця ганаровыя госці У. Андрэйчанка з главой вобласці М. Шарстнёвым і кіраўніцтвам раёна агледзелі цэнтр, дзе ўжо ідуць работы на другой чарзе, бо па суседстве ўзводзяць яшчэ спартыўную залу з плавальным басейнам.

### Полацкі раён

## Асцерагайся ліхача

■ Чэслаў Якубовіч.

**З надыходам восені стала рана цямнець, ва ўмовах дрэннай бачнасці, на беларускіх дарогах на пешаходаў пачасціліся наезды з цяжкімі наступствамі.**

На працягу лічаных дзён у Наваполацку адбыліся дзве такія жудасныя аварыі з гібеллю людзей. У абодвух выпадках гараджане знайшлі сваю пагібель ад жадання гора-вадзіцеляў ехаць на высокай хуткасці. У выніку спачатку ахвярамі сталі нават тры пешаходы, а самая маладая з іх школьніца загінула на трасе ў прамысловай зоне ААТ "Нафтан". Другая трагедыя адбылася неўзабаве ўжо на адной з ажыўленых заўсёды дарог нафтаграда ля кінатэатра "Мінск". Вечарам у выхадны дзень там ляцеў на "Фольксваген Туран" 18-гадовы хлопец, які гуляе за мясцовую хакейную каманду "Хімік-СКА" і вучыцца завочна ў Смаленскім дзяржуніверсітэце. Ён так разагнаўся, што збіў насмерць 64-гадовую жанчыну-пенсіянерку менавіта на пешаходным пераходзе, дзе павінен быў яе прапусціць. Іншамарка спынілася толькі на значнай адлегласці ад месца здарэння, вадзіцеля-забойцу пачаў збіваць адзін са сведкаў бяды, пакуль яго не спынілі іншыя прахожыя. Неўзабаве прыбыла і міліцыя і высветліла, што малады хлопец за рулём быў цвярозы, але ён толькі нядаўна атрымаў вадзіцельскія правы. Мясцовы жыхар тым больш павінен быў ездзіць асцярожна, не маючы па-сутнасці ніякага вадзіцельскага вопыту. А на высокіх хуткасцях ён лепш бы лётаў на лёдзе, дзе ягоная каманда проста правальвае сезон. Між тым, на Полаччыне на дарогах неспакойна, тут апошнім часам збілі насмерць яшчэ аднаго мужчыну, памерла пасля наезду і палачанка, цудам не загінуў матацыкліст.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.11.16 | | | | Пятніца 04.11.16 | | | | Субота 05.11.16 | | | | Нядзеля 06.11.16 | | | | Пан. 07.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +2 | +2 | -3 | -4 | -2 | 0 | -4 | -2 | 0 | +1 | 0 | -1 | 0 | +1 | 0 | -1 | 0 | +1 |
| Ціск | 733 | 733 | 737 | 740 | 743 | 745 | 747 | 747 | 747 | 745 | 744 | 740 | 736 | 734 | 736 | 738 | 739 | 740 | 742 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 1 Пд | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 4 З | 4 Пн-З | 4 З | 1 Пд-З | 3 Пд | 5 Пд | 6 Пд | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 1 Пд-У | 0 ШТЛ | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 4 Пд-У | 2 Пд-У |
| Вільготнасць | 96 | 98 | 84 | 91 | 91 | 88 | 70 | 95 | 96 | 96 | 85 | 91 | 98 | 99 | 89 | 98 | 98 | 99 | 89 |

# Аб самым надзённым

## БЕЛАРУСІ ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНА АДЫСЦІ АД ПРАЗМЕРНА МОЦНАЙ ЗАЛЕЖНАСЦІ АД РАСІІ



**Як вядома, суседзі пагадзіліся на кампраміс і ў выніку наша краіна сэканоміць сёлета на газе 400 млн. долараў, цана на гэта паліва ў 2017 годзе будзе на чвэрць ніжэй, што нам патрэбна. Да таго ж суседзі будуць за газ браць з нас у сваіх рублях, а не доларах, як раней. Як падаецца, на такі крок Масква пайшла неахвотна, паколькі занадта расійскае кіраўніцтва раздражняе, як у Крамлі падаецца, наша самастойнасць на міжнароднай арэне.**

■ Аляксандр Цішкевіч.

Усё ж, сапраўды, добра тое, што нядрэнна для кожнага з нас заканчваецца. Вось і сёлета больш 9 месяцаў працягваўся чарговы расійска-беларускі нафтагазавы канфлікт, саюзнікі ніяк не маглі дамовіцца нават у рамках ЕАЭС наконт справядлівых цэн на "блакітнае" паліва. Потым у нас утварыўся значны доларавы доўг за пастаўлены газ, а Крэмль, каб правучыць беларусаў, нанёс удар у адказ і значна скараціў пастаўкі нафты на айчынныя НПЗ. Таксама яўна не падабаецца дзеячам у Маскве істотнае пацяпленне адносін Беларусі з Захадам, стрыманая ацэнка намі праходзячых падзей з удзелам рускіх войск у Данбасе, а цяпер і ў пекле грамадзянскай вайны ў Сірыі.

Невыпадкова днямі А. Лукашэнка справядліва і шчыра адзначыў, выступаючы перад парламентарыямі: " … мы часто говорили о многовекторности, но в реальности летели всё-таки на одном крыле. Наша задача – добиться баланса в отношениях со всеми нашими соседями". Прыемна, што ад слоў адразу перайшлі да канкрэтных спраў. Асабіста мяне вельмі ўсцешыла, што глава МЗС Беларусі У. Макей літаральна праз 3 дні пасля такой заявы быў ужо ў Варшаве і правёў паспяховы афіцыйны візіт у Польшчу. Як і належыць вопытнаму дыпламату, міністр сказаў, што беларусы не збіраюцца разрываць адносіны з Расіяй. У польскай сталіцы ён аднак цвёрда адначасова пацвердзіў на беларускай мове, што будзем адыходзіць ад моцнай прывязкі да аднаго партнёра на прасторах ад Смаленска да Курыл. Беларуская дэлегацыя перадала палякам цікавячыя іх невядомыя звесткі з архіваў.

І справа нават не ў тым, што цяперашнюю пуцінскую кіруючую каманду ніякім розумам не зразумець. Замест таго, каб жыць спакойна, зрабіць рускі народ і сваю краіну заможным квітнеючым краем (для гэтага ў суседзяў ёсць усё), менавіта Крэмль палез у Крым. Захапіўшы паўвостраў, на гэтым афіцыйная Масква не спынілася, распачала і працягвае гібрыдную вайну ў Данбасе. Расійскую эканоміку пасля гэтага даволі моцна падкасілі заходнія санкцыі, выраслі цэны, значна панізіўся жыццёвы ўзровень мільёнаў расіян. Па вушы завязлі рускія ваенныя на сірыйскай зямлі, а самае страшнае, яны ўшчыльную наблізілі свет да прамога ўзброенага канфлікту з супердзяржавай ЗША і яе саюзнікамі.

Дзякуй Богу, у пэўнай ступені рашучасць кіраўніцтва Беларусі, намеры павысіць тарыфы за транспарціроўку расійскай нафты і пагрозы закупак сыравіны ў Іране паўздзейнічалі на рускіх палітыкаў. Крэмль асадзіў назад у гэтай спрэчцы, хоць пастараўся захаваць добрую міну пры дрэннай гульні. Як вядома, суседзі пагадзіліся на кампраміс і ў выніку наша краіна сэканоміць сёлета на газе 400 млн. долараў, цана на гэта паліва ў 2017 годзе будзе на чвэрць ніжэй, што нам патрэбна. Да таго ж суседзі будуць за газ браць з нас у сваіх рублях, а не доларах, як раней. Як падаецца, на такі крок Масква пайшла неахвотна, паколькі занадта расійскае кіраўніцтва раздражняе, як у Крамлі падаецца, наша самастойнасць на міжнароднай арэне.

Аднак хто з суверэннай Беларуссю раіўся, калі рускія рэзка павялічылі пастаўкі сваёй зброі і ваеннаслужачых у Сірыю, размясцілі там найноўшую сістэму СПА, а ракетныя комплексы "Іскандэр" пад Калінінградам. Гэтага ім паказалася мала, сталі крамлёўскія ястрабы пагражаць амерыканцам вярнуць свае ваенныя базы на Кубу, у В'етнам і Егіпет. Каб паказаць рашучасць сваіх намераў, Крэмль раптам паміраўся з Турцыяй і паабяцаў збіваць заходнія крылатыя ракеты і самалёты ў выпадку іх удараў па арміі сірыйскага дыктатара Б. Асада, якога ненавідзяць большасць унутры разрушанай краіны і ў арабскім свеце. Такая рыторыка да дабра не даводзіць і вось ужо У. Пуцін адмяніў свой візіт у Францыю, ён становіцца ўсё большым ізгоем на міжнароднай арэне.

Таксама ўсё болей сталі гучаць у свеце заявы, каб аддаць кіраўніцтва Расіі пад Міжнародны крымінальны суд за, сапраўды, "ваенныя злачынствы" ў Сірыі, дзе бамбяць рускія самалёты нават шпіталі, дзе масава гіне мірнае насельніцтва. А перад гэтым давайце не будзем забываць, што рускай ракетай збілі пасажырскі авіярэйс над Данецкам, а гэта таксама ваеннае злачынства. З аднаго боку Беларусь, як быццам, бліжэйшы саюзнік Расіі, з'яўляецца членам ваеннай арганізацыі АДКБ. Аднак адказваць за дрэнныя бязглуздыя ўчынкі свайго суседа нам навошта? У Беларусі ёсць і будуць свае інтарэсы ў свеце. Вельмі правільна робіць А. Лукашэнка, што праводзіць такую разважлівую палітыку быць добрым і харошым суседам для ўсіх, хто паважае беларускі народ.

## Дзень за днём

**Зніжку на газ для Беларусі аплоціць "Газпраму" бюджэт Расіі. З 1 снежня на 5 % павысяцца працоўныя пенсіі. Абедзве Палаты беларускага парламента ўзначалілі зноў У. Андрэйчанка і М. Мясніковіч. Беларусь падпісала з ЕС пагадненне аб партнёрстве ў сферы міграцыі і мабільнасці. Урад рэкамендаваў рэгіёнам набыць у лізінг 386 аўтобусаў "МАЗ". Паўсюдна ў краіне стала прыбаўляцца шматдзетных сем'яў. Грамадзян ЕС Расія не стала пускаць на сваю тэрыторыю праз Беларусь. У сусветным рэйтынгу высакахуткаснага інтэрнэту Беларусь паднялася на 23-е месца, у нас ужо 2,8 мільёна такіх абанентаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Улады ЕС пачалі падрыхтоўку да ўвядзення новых санкцый супраць Расіі з забаронай паставак у РФ навейшых тэхналогій і замарозку праекта "Паўночны паток-2".

**Расія.** У. Пуцін абвінаваціў ЗША ў фінансаванні нібыта "дзяржперавароту" ва Украіне і фактычна прызнаў удзел рускіх войск у вайне на Данбасе для "абароны рускамоўных".

**Украіна**. Дэпутат Вярхоўнай Рады і ПАСЕ Н. Саўчанка папярэдзіла, што Расія праводзіць знешнюю палітыку, накіраваную на разгортванне ІІІ Сусветнай вайны, пагражае Еўропе.

**Англія.** Глава МЗС краіны Б. Джонсан паведаміў аб намерах увесці новыя санкцыі супраць Расіі і Сірыі ў адказ на іх бесчалавечныя бамбардзіроўкі горада Алеппа.

**Сірыя.** У паветры краіны, як пацвердзіў Б. Асад, ужо адчуваецца пах ІІІ Сусветнай вайны, за нас ваююць супраць тэрарыстаў Іран, шыіцкі рух "Хезболла", а цяпер і Расія.

**В'етнам.** МЗС краіны выключыў з'яўленне якіх-небудзь замежных ваенных баз на сваёй тэрыторыі, раней пра гэта заяўляла Расія, падобнай пазіцыі прытрымліваецца і Егіпет.

**Йемен.** У адказ на абстрэл сваіх караблёў ваенныя ЗША раніцай на ўзбярэжжы Чырвонага мора знішчылі 3 радыёлакацыйныя станцыі, які былі пад кантролем мяцежнікаў-хусітаў.

**Шатландыя.** Правячая Нацыянальная партыя пачала рыхтаваць другі рэферэндум аб незалежнасці краіны і выхадзе з Вялікабрытаніі, шатландцы жадаюць застацца ў ЕС.

**Расія.** За адзін дзень рускія ваенныя правялі 3 пускі балістычных ракет, здольных несці ядзерную зброю, з касмадрома "Плесецк", падводнай лодкі і з стратэгічнага крэйсера.

**Узбекістан.** Азіяцкія СМІ паведамілі, што родныя прэм'ер-міністра Ш. Мірізіёва пачалі захоп бізнесу, які належыў раней сям'і і прыбліжаным памерлага прэзідэнта І. Карымава.

**ЗША.** Спецыялісты Пентагона пачалі разглядаць варыянты атак на кіберэлементы арміі Расіі з мэтай вывесці са строю яе асобныя электронныя ваенныя сістэмы кіравання.

**Расія.** Галоўны прапагандыст Крамля на тэлеканале "Расія-1" Д. Кісялёў прыгразіў Захаду: " наглое поведение по отношению к России может иметь ядерныя последствия".

**Тайланд.** Старэйшы манарх свету кароль Рама IX памёр на 89-м годзе жыцця, на троне ён знаходзіўся з 9 чэрвеня 1946 года, з'яўляўся аўтарытэтным любімцам тайскай нацыі.

**Расія.** Па аналогіі з сістэмай "Платон", як паведаміла газета "Коммерсантъ", у РФ могуць увесці плацяжы за перасячэнне дзяржграніцы аўтамабілямі і чугуначнымі цягнікамі.

**Кітай.** Краіна абагнала ЗША па колькасці супербагатых людзей, тут багацці звыш 1 млрд. долараў займелі 594 чалавекі, калі сярод амерыканцаў жыве 535 мільярдэраў.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Праект указа па абмежаванні продажу алкаголю ўнесены на разгляд у Саўмін



■ belta.by

**Міністэрства ўнутраных спраў унесла ў Савет Міністраў праект указа па абмежаванні продажу алкаголю, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе МУС Беларусі.**

«Праект указа прадугледжвае адзіны час рэалізацыі алкагольных напояў (з 9.00 да 22.00) і забарона гандлю ў крамах, якія не маюць адасобленых таварных аддзелаў» Забарона будзе ўводзіцца толькі для крам, чыя плошча складае 400 кв.м і больш», - адзначылі ў МУС. Як заяўляў раней намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі МУС Сяргей Красуцкі, прынятне ўказа не прывядзе да павелічэння продажаў кантрафактнага алкаголю ў краіне. «Ужо выпрацаваны ўсе неабходныя механізмы для барацьбы з нелегальным гандлем алкаголем. Сёння назіраецца тэндэнцыя да таго, што нелегальны абарот алкаголю скарачаецца» – сказаў ён.

## Фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў з 1 лістапада пачне выдаваць крэдыты для бізнесу пад 10%

■ Святлана Міховіч, БЕЛТА

**Фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў з 1 лістапада пачне выдаваць крэдыты для бізнесу пад 10% гадавых, паведаміў сёння першы намеснік міністра эканомікі Беларусі Аляксандр Забароўскі падчас круглага стала «Вынікі Рэспублікі Беларусь у справаздачы» Вядзенне бізнесу-2017»**

Планы па далейшым паляпшэнні інвестыцыйнага клімату», перадае карэспандэнт БелТА. «З 1 лістапада наш Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў выводзіць новыя ўмовы падтрымкі прадпрымальніцтва. Гаворка ідзе пра пазыкі і магчымасці лізінгу ў беларускіх рублях пад стаўку 10%», – растлумачыў першы намеснік міністра. Сума фінансавай падтрымкі на аднаго суб'екта гаспадарання будзе складаць да Br210 тыс., тэрмін – да 5 гадоў. Размяркоўвацца сродкі будуць на конкурсных умовах, сярод якіх – стварэнне новых працоўных месцаў і рост прадукцыйнасці працы. «Тыя прадпрыемствы малога і сярэдняга бізнесу, якія падпадаюць пад гэтыя крытэрыі, атрымаюць доступ да добрых фінансавых прадуктаў», – канстатаваў ён. Паводле слоў першага намесніка міністра, прадастаўленне такіх крэдытных рэсурсаў – адна мера з цэлага шэрагу інструментаў, якія будуць выкарыстоўвацца ў Беларусі, каб стымуляваць інвестыцыі і падтрымліваць эканамічны рост. «Гэтыя інструменты ўяўляюць сабой два блокі. З аднаго боку – гэта макраэканамічныя інструменты, якія прыводзяць да зніжэння інфляцыі і паступовага зніжэння працэнтных ставак (а значыць, расце і даступнасць крэдытаў для бізнесу). З іншага боку – Мінэканомікі запускае шэраг кропкавых праектаў, якія дазваляюць паскорыць гэты працэс. Сярод іх крэдыты Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў», – распавёў Аляксандр Забароўскі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Самым праблемным заводам краіны стаў МАЗ з 17 тысячамі працоўных, яго прамыя страты ў першым паўгоддзі склалі 30 млн. USD, альбо 596 млрд. рублёў.

**Брэст.** Толькі 237 работнікаў засталося на ранейшым флагмане радыёэлектроннай прамысловасці, заводзе "Цветотрон", у перыяд росквіту там працавала больш 6 тысяч.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч заявіў, што Расія саступіла нам у нафтагазавай вайне, бо Крамлю важна не згубіць апошняга саюзніка, мы гуляем на іх імперскіх комплексах.

**Гродна.** На самым папулярным рынку горада "Паўднёвы" закрылася больш ста гандлёвых боксаў з-за істотнага зборання многіх пакупнікоў, рэзкага падзення пакупніцкага попыту.

**Бабруйск.** Падатковая інспекцыя памылкова накіравала пісьмо аб неабходнасці заплаціць падатак на дармаедаў на адрас мужчыны, які памёр на заробках у Маскве, маці ў шоку.

**Мінск.** Экс-старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання М. Грыб заявіў, што аб'яўленыя А. Лукашэнка намеры змен Кастытуцыі закрануць яго паўнамоцтвы, перадачу ўлады.

**Фаніпаль.** Калектыў завода электрацягнікоў Stadler парадавала, што пры недахопе заказаў кампанія з Санкт-Пецярбурга заказала ім вырабіць 23 сучасныя трамваі "Мяцеліца".

**Салігорск.** Падчас рамонтных работ ля склада І-га рудаўпраўлення "Беларуськалія" часткова праваліўся пад зямлю дарагі нямецкі аўтакран, ніхто з людзей не пацярпеў.

**Брэст.** У партыі з 50 тон ялавічыны мясцовага мясакамбіната Рассельгаснагляд выявіў небяспечныя бактэрыі, не спадабаліся рускім прэсервы сялядца фірмы "Віталюр".

**Магілёў.** 3 архікатэдральнага касцёла ў Мінску даставілі ў мясцовы сабор фігуру Маці Божай Фацімскай, адкуль яна пачала перэгрынацыю па каталіцкіх парафіях дыяцэзіі.

**Мінск.** Спецыялісты "МАЗа" сумесна з галандскай кампаніяй GeesinkNorda выпусцілі першыя 2 смецязвозы з прэсам для апрацоўкі да 7 буйнагабарытных адыходаў з мэблі.

**Вілейка.** За паўмесяца Следчы камітэт раскрыў забойства вясной 3 гады назад 38-гадовай мінчанкі яе мужам, ён вывез і ўтапіў труп у мясцовым водасховішчы, а знайшлі сёлета.

**Рэчыца.** За нашэнне адкрыта футболкі з "Пагоняй", дэмакратычныя погляды прымусілі пакінуць працу ў райгазеце "Дняпровец" яе былога адказнага сакратара А. Мядзведзева.

**Раўбічы.** За 2 месяцы да старту перадалімпійскага сезона зборную Беларусі па біятлоне зноў узначаліў Юрый Альберс, за апошнія 6 гадоў у ёй змяніліся ўжо 9 трэнераў.

**Барысаў.** Пасля страты 2-х ачкоў у матчы на "Барысаў-арэне" ў матчы супраць Люксембурга зборная Беларусі па футболе мае мала шанцаў прабіцца на чэмпіянат свету.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Гарадок.** Эканамічны суд вобласці прызнаў банкрутам мясцовы райаграснаб з даўгамі 7,2 млн. новых рублёў, яго ліквідуюць да жніўня 2017 года, працы пазбавіцца 150 чалавек.

**Глыбокае.** З удзелам главы вобласці М. Шарстнёва на мясцовым мясакамбінаце адкрылі новы сучасны мясаперапрацоўчы цэх, на яго пайшло звыш 11 трлн. старых рублёў.

**Віцебск.** У абласным цэнтры прыпынілі ўзвядзенне Сафійскага сабора ў парку з-за пратэстаў гараджан, людзі прапануюць месца для храма ўзвышша на Смаленскай шашы.

**Дуброўна.** З дапамогай інвестараў з Кітая ў раёне пабудуюць буйны малочнатаварны комплекс на 6400 галоў статку, такія аб'екты з'явяцца і ў Талачынскім, Сенненскім раёнах

**Паставы.** Прыватная фірма "Фрэшфудпак" зарэгістравала сваю гандлёвую марку "Үесці", на новым нямецкім абсталяванні выпускае штодзень ужо 3 тоны мясапрадуктаў.

**Руба.** На ўзводзімай Віцебскай ГЭС закончылі работы па запаўненню вадой водасховішча, што прывяло за суткі да зніжэння ўзроўню вады ў Заходняй Дзвіне на 26-55 см.

**Віцебск.** Улады вобласці вырашылі перадаць у склад буйнога канцэрна "Мясамалочныя прадукты" праблемную гандлёвую сетку "Віцебскія прадукты" з больш 30 магазінаў.

**Сянно.** Замежны інвестар набыў за 322 тыс. новых рублёў былую базу адпачынку "Чайка" збанкрутаванага ААТ "КІМ" паблізу вёскі Шчытаўка, плануе адкрыць тут конеферму.

**Гарадок.** У райцэнтры ўрачыста адкрылі раённы сацыяльна-педагагічны цэнтр для дзяцей у цяжкіх жыццёвых сітуацыях, які дагэтуль размяшчаўся ў гарпасёлку Езярышча.

**Браслаў.** Суд раёна пакараў 4 гадамі турмы былога 35-гадовага баевіка з Чачні за перапраўку праз дзяржграніцу групы нелегалаў з В'етнама, якіх затрымалі потым у Латвіі.

**Шуміліна.** У лясным масіве за вёскай Вішня заблудзіліся падчас збору ягад дзве пенсіянеркі, ноччу адшукалі труп 69-гадовай бабулі, потым знайшлі мёртвай і другую.

**Лепель.** На ваенным палігоне прайшоў вучэбны збор супрацоўнікаў дзяржінспекцый аховы жывёльнага і расліннага свету вобласці са стральбой з табельнай зброі.

**Докшыцы.** Інстытут пагранічнай службы Беларусі правёў у СШ № 1 выязны дзень адкрытых дзвярэй, на сустрэчу з яго выкладчыкамі і курсантамі прыйшлі і з іншых школ.

**Лёзна.** У рамках дабрачыннай акцыі 40 работнікаў мясцовага лясгаса пасадзілі ў Чэрвенскім раёне на Міншчыне малады лес на плошчы 7,1 га, дзе прайшоўся ўраган.

**Браслаў.** У галерэі мастацтваў Палаца Рэспублікі ў Мінску адкрыўся вернісаж "Браслаўскія зоркі". На ім прадставілі габелены, карціны з дрэва, 70 фотаработ лепшых фотамастакоў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Марыны Шкерманковай забралі бронзавы медаль Алімпійскіх гульняў-2012 у Лондане

***Інфармацыя пра гэта размешчана на афіцыйным сайце Міжнароднага алімпійскага камітэта, паведамляе БелТА.***




На лонданскай Алімпіядзе Марына Шкерманкова заняла 3-е месца ў вагавой катэгорыі да 69 кг. Пасля пераправеркі допінг-пробаў у яе былі выяўлены забароненыя анабалічныя стэроіды, як і ў яшчэ двух беларускіх цяжкаатлетаў — Яўгена Жарнасека, які заняў 9-е месца ў вагавой катэгорыі звыш 105 кг, і Дзіны Сазанавец, якая апынулася на 4-м месцы ў вазе да 69 кг услед за Шкерманковай.

Раней паведамлялася, што за ўжыванне допінгу на Алімпіядзе-2008 у Пекіне медалі забралі ў яшчэ двaіх прадстаўнікоў Беларусі: Андрэя Рыбакова (срэбра ў вагавой катэгорыі да 85 кг) і Анастасіі Новікавай (бронзай у вагавой катэгорыі да 53 кг).

У апошнія дні акрамя беларусаў алімпійскіх узнагарод Пекіна-2008 і Лондану-2012 пазбаўлены прадстаўнікі Казахстана, Расіі, Узбекістана і Украіны. Усе парушальнікі былі дыскваліфікаваныя і абавязаныя ў найкароткія тэрміны вярнуць узнагароды ў МАК.

***Паводле БелТА.***

**Падчас аднаго з набажэнстваў у Глыбокім 61-гадовы пенсіянер, мясцовы жыхар, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пранік ў рызніцу і выкраў начынне, якое выкарыстоўваецца ў літургіі.**

# Крадзёж у глыбоцкім касцёле

**Дзякуючы пільнасці вернiц у Глыбокім быў затрыманы пенсіянер, які выкраў з касцёла святой Тройцы начынне.**

На падазроныя дзеянні мужчыны звярнулі ўвагу касцёльныя бабулі, якія распавялі пра тое, што адбылося, пробашчу касцёла. Пробашч звярнуўся ў міліцыю, і неўзабаве злодзей быў затрыманы.

Сярод выкрадзенага ў храме начыння сталіся рэчы, якія ўяўляюць культурна-гістарычную каштоўнасць. У прыватнасці, здабычай злодзея сталі старадаўнія патэна (адзін з літургічных сасудаў) і манстранцыя (разнавіднасць дараносіцы, посуд для выстаўлення Найсвяцейшага Сакрамэнту падчас паклянення). Агульная сума нанесенай шкоды склала 10,3 тысячы рублёў (каля $5 тыс.). У дачыненні да мужчыны распачата крымінальная справа па частцы 3 артыкула 205 КК. Рэспублікі Беларусь.



***ННВ.***

# Самы малады кіраўнік раёна Мінска – з Глыбокага



37-гадовы Арцём Цуран прызначаны галавой Адміністрацыі Фрунзенскага раёна Мінска. Самага вялікага ў горадзе, адпаведна аднаго з самых праблемных. Цуран родам з Глыбокага, ён скончыў Беларускі педуніверсітэт імя Максіма Танка. Працаваў на «Мінскім заводзе ацяпляльнага абсталявання». Апошнім часам ён быў начальнікам упраўлення арганізацыйна-кадравай работы ў Мінгарвыканкаме. Цуран быў сакратаром у Мінскай гарадской выбарчай камісіі.

Арцём Цуран карыстаецца сацсеткамі, прынамсі, ён мае акаўнты ў «Аднакласніках» і Фэйсбуку. У «Аднакласніках» адна з фотак падпісаная па-беларуску: «Спякота ў Феадосіі — 2009». Ні ў якіх суполках чыноўнік не ўдзельнічае, статусы таксама не піша.

***nn.by***

# По ўраджайнасці, са 118 раёнаў краіны, Глыбоцкі раён займае 98-е месца

■ **Уладзімір Скрабатун**

Сёлетняя бітва за ўраджай скончылася правалам. Паводле дадзеных Белстата, агульны намалот зерня склаў 7,03 мільёна тон. Гэта найгоршы вынік ад 2010 года! Напрыклад, намалот за 2014 год склаў – 9,11 мільёна тон, а ў 2015 – 8,24.

На фоне 118 раёнаў краіны, цікава – якое месца па ўраджайнасці займае наш Глыбоцкі раён? Як справы і ў нашых суседзяў па Віцебскай вобласці?

Мы ў пяць разоў зменшылі табліцу, аднак пакінуўшы трох лідараў, якія не з Віцебскай вобласці, каб была магчымасць з чым параўноўваць.

| № | | Раён | Ураджайнасць | |
|---|---|---|---|---|
| | | | 2016 | 2015 |
| 1 | 1 | Гродзенскі | **59,9** | 72,9 |
| 2 | 2 | Нясвіжскі | **56,8** | 72,9 |
| 3 | 9 | Шклоўскі | **51,8** | 55,4 |
| 26 | 34 | Аршанскі | **36,0** | 41,0 |
| 35 | 20 | Верхнядзвінскі | **34,2** | 47,6 |
| 48 | 56 | Полацкі | **32,1** | 37,1 |
| 58 | 24 | Дубровенскі | **30,4** | 43,4 |
| 60 | 33 | Пастаўскі | **30,4** | 41,4 |
| 70 | 52 | Докшыцкі | **29,4** | 38,3 |
| 80 | 58 | Віцебскі | **28,0** | 36,4 |
| 85 | 35 | Бешанковіцкі | **27,1** | 40,8 |
| 94 | 45 | Мёрскі | **26,2** | 39,1 |
| 95 | 67 | Талачынскі | **26,2** | 34,7 |
| 98 | 68 | **Глыбоцкі** | **25,8** | 34,6 |
| 100 | 76 | Шаркоўшчынскі | **25,6** | 33,4 |
| 101 | 66 | Лёзненскі | **25,5** | 34,7 |
| 110 | 83 | Сенненскі | **23,9** | 32,3 |
| 112 | 75 | Ушацкі | **23,1** | 33,5 |
| 113 | 93 | Лепельскі | **22,4** | 31,4 |
| 114 | 71 | Чашніцкі | **21,8** | 34,4 |
| 115 | 92 | Браслаўскі | **21,2** | 31,4 |
| 116 | 115 | Гарадоцкі | **21,2** | 22,6 |
| 117 | 109 | Расонскі | **20,1** | 25,8 |
| 118 | 95 | Шумілінскі | **17,7** | 30,9 |

Не кепскія паказчыкі ў Аршанскага раёна, ён займае 1-е па вобласці і 26-е месца ў краіне, 2-е па вобласці і 35-е месца ў краіне ў Верхнядзвінскага раёна.

Мы апынуліся на 98 месцы! Наогул, канец "турнірнай" табліцы займаюць раёны выключна Віцебскай вобласці.

Галоўнай прычынай селетніх неўраджаяў называюць моцныя вятры, якія месцамі паклалі збажыну долу. Дастаткова параўнаць сёлетнюю і леташнюю ўраджайнасць па раёнах.

Асабліва дасталася Ашмянам. Летась раён быў у трыццатцы найлепшых, цяпер не трапіў нават у сотню. Падобная сітуацыя і ў Смаргоні, і ў Астраўцы, і ў Воранаве.

Паводле лічбаў, у плюсе засталася толькі Гомельшчына (+12,2% намалоту ў параўнанні з 2015 годам). Аднак гэта ілюзія. Справа ў тым, што летась на Гомельшчыне быў вельмі нізкі ўраджай, таму і параўнанне ідзе з малымі лічбамі.

Лідары застаюцца ранейшымі – Гродзенскі і Нясвіжскі раёны. Фактычна гэта барацьба паміж «Верцялішкамі» і «Сновам», перадавымі сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі краіны.

## У Пастаўскім раёне аўтамабіль выляцеў у кювет, кіроўцу запатрабавалася дапамога выратавальнікаў

**29 кастрычніка выратавальнікам прыйшлося дэблакаваць кіроўцу легкавушкі, якая выляцела ў кювет зблізку вёскі Коўзаны Пастаўскага раёна.**

Падчас ДТЗ, якое адбылося каля 3:04, аўтамабіль перавярнуўся, а мужчыну, які кіраваў ім, заціснула ў пашкоджаным салоне.

Кіроўца быў дэблакаваны выратавальнікамі і перададзены брыгадзе хуткай дапамогі, а затым шпіталяваны ў бальніцу, паведамляе прэс-служба МНС.

***ННВ.***

# У Браслаўскім раёне згарэлі двое пенсіянераў

**24 кастрычніка ў 8:49 пажарнікі атрымалі паведамленне аб пажары ў доме на вуліцы Чапаева ў гарадскім пасёлку Відзы Браслаўскага раёна.**

На месцы пажару выратавальнікі выявілі целы двух пенсіянераў: 60-гадовага гаспадара дома і яго 83-гадовай маці. Агнём у доме знішчаны дах, пашкоджана перакрыцце столі, сцены, маёмасць. Прычына пажару ўсталёўваецца. Паведамляе прэс-служба МНС.

У гэты ж дзень на пажары на тэрыторыі піларамы ў Оршы загінуў яшчэ адзін чалавек, асоба якога пакуль не вядомая. Такім чынам, за некалькі апошніх дзён у Віцебскай вобласці на пажарах загінулі 8 чалавек, а ў цэлым па краіне – 20.

***ННВ.***

# Чаму так шмат вакол нас няшчасных людзей?

*"Хочаце пасяліць стан усеагульнага шчасця, імкніцеся да таго, каб кожны меў столькі для жыцця, колькі яму трэба, і каб ніхто не меў больш таго, колькі трэба для задавальнення яго патрэбаў".*
***Вільгельм Вейтлінг,***
***дзеяч нямецкага рабочага руху***



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

На працягу свайго кіравання кампартыя ставіла перад сабой задачу стварыць такое грамадства, у якім кожны член гэтага грамадства імкнуўся б мець роўнастолькі матэрыяльных і маральных каштоўнасцяў, якія задавальнялі б яго запатрабаванні і не больш таго. Не атрымалася. Калі чалавек ва ўладзе, вельмі цяжка, а часцей дарэмна весці барацьбу з самім сабой, з жаданнем хапнуць больш таго, што мне патрэбна, так саказаць, пра запас. Хапалі і прадаўжаюць хапаць у каго ёсць магчымасць.

Няшчаснымі нас робяць завышаныя патрабаванні да сябе, блізкіх, свайго ўзроўню дастатка, кар'еры і яшчэ шмат да чаго. Гэты сіндром вырастае з комплексу непаўнавартасці – праз знешнія атрыбуты (дарагая машына, цудоўны дом, дарагія рэчы) чалавек імкнецца кампенсаваць унутраную несамадастатковасць. Вельмі часта гэта адбываецца ў жанчын у адносінах да мужчын. Жанчыне заўсёды здаецца, што яе муж недастаткова прыгожы, мала зарабляе, многа п'е і г.д. Жонка грызе каханага, сама пастаянна ў стрэсе, забывае прастую выснову, што кола, якое скрыпіць мацней за іншыя, мяняюць у першую чаргу. Часткова таму ў нас многа бязбацькаўшчыны, дзяцей-сірот няшчасных пры жывых бацьках.

Але вось у чым загвоздка: найчасцей мы варты таго, што атрымоўваем. І наша душэўная гармонія залежыць толькі ад успрымання. Альбо мы будзем вельмі патрабавальныя да свайго жыцця, а таму нешчаслівыя ад таго, што яно не адпавядае нашым завышаным патрабаванням, нашым чаканням, альбо прымем жыццё такім, якім яно ёсць. Патрэбна проста памятаць, што муж, жонка, дзеці – жывыя людзі, яны таксама маюць слабасці, ды і не ўсе народжаны быць вялікімі начальнікамі, крутымі, вучонымі. Калі пастаянна думаць пра гэта, што ўсё магло б быць лепш, чым ёсць, то можна пакутаваць ад гэтага бясконца, таму што мяжы ўдасканаленню няма.

Мы думаем, што няшчаснымі робяць людзей самыя нізкія парокі чалавека, мяняючь яго воблік, і не толькі воблік, – гэта алкаголь і наркотыкі. Вынікі гэтых захапленняў бачны няўзброеным вокам: згуба прыстойнага знешняга выгляду, упэўненасць у сабе, праблемы ў грамадстве і г.д. Чалавек паступова апускаецца на самае дно жыцця. Канечне, безвыхадных сітуацый не бывае. І калі тыя, хто дайшоўшы да розуму, знайшоў тую саломінку, якую яму працягнулі грамадства, сям'я і Вышэйшы Розум, і, ухапіўшыся за яе, вяртаецца ў лона здаровага жыцця, той збавіўся ад няшчасця сам і збавіў ад няшчасця родных і блізкіх.



"Самы шчаслівы чалавек той, хто дае шчасце найбольшай колькасці людзей," – вучыў Дзідро, французскі філосаф-матэрыяліст. Жыццё пастаянна гатова больш хітрым спосабам праверыць наш духоўны стан – скупасцю. Вось як цікава пабудавана: чым менш багаты чалавек, тым больш ён сардэчны, здольны дапамагаць, у т.л. матэрыяльна, і наадварот, многія багатыя людзі па сваёй прыродзе скнары. А ўсё пачынаецца з бяскрыўднага імкнення назапасіць грошай на тую або іншую рэч, важны атрыбут дамашняй гаспадаркі. Быццам бы нічога дрэннага ў гэтым няма і не можа быць, на самой справе сэканомленая капейка рубель беражэ. Але падобныя адносіны да назапашвання перарастаюць у другое захапленне – ганебнае і нястрыманае жаданне памножыць ужо тое, што ёсць. А гэта пастаяннае імкненне пазбаўляе чалавека раўнавагі, робіць яго няшчасным. Самае маркотнае ў такім спосабе існавання тое, што імкненне да нажывы і ўзбагачэння становіцца галоўнай мэтай жыцця чалавека, што мы паўсюдна маем – узбагачайся любым шляхам, грошы не пахнуць, нават калі на іх чалавечая кроў. Цікаўна, але багатыя таксама плачуць, праўда, гэта слёзы кракадзіла.

У свой час Бялінскі казаў: "Из всех страстей человеческих, после самолюбия, самая сильная, самая свирепая – властолюбие". Усё – нішто, у параўнанні з жаданнем быць вяршыцелем чалавечых лёсаў. Гісторыя мае многа фактаў загавараў, забойстваў, злачынстваў перад чалавецтвам за немагчымасць аднучасова быць і суддзёй, і пракурорам, і адвакатам над тымі, у каго адымалася ўлада.

Французскі публіцыст і рэлігійны філосаф XIX стагоддзя Фелістэр Робер дэ Ламеннэ пісаў: "Тры спакусы мучаюць людзей: пажаднасць цела, ганарлівасць і любоў да багацця. Ад гэтага – беды людзей і ўсе няшчасці. Без пажадлівасці, ганарлівасці і карысналюбства ўсе людзі жылі б шчаслівa. Як жа пазбавіцца ад гэтых жудасных хвароб? Пазбавіцца ад іх цяжка таму, што зародыш іх у самой прыродзе нашай. Для пазбаўлення сябе ад іх ёсць толькі адзін сродак: працаваць над сабой. Часта думаюць, што дапамагчы могуць толькі законы і ўрад, але гэтага не можа быць, таму што пішуць законы і правяць людзьмі такія ж людзі, якія пакутуюць ад той жа пажадлівасці, ганарлівасці і карысналюбства. І таму на законы і ўрад нельга спадзявацца. А таму адно, што могуць зрабіць людзі для свайго дабрабыту, - гэта знішчыць у сябе і пажаднасць, і ганарлівасць, і карысналюбства. Ніякае паляпшэнне немагчыма, пакуль кожны не пачне гэта паляпшэнне з самога сябе".

Нешта падобнае прапаноўвалі французскія сацыялісты-ўтапісты, штосьці прапаноўваў Чэрнышэўскі, але нічога не атрымалася. З часоў жыцця Фелістэра Робера дэ Ламеннэ прайшло больш 150 гадоў, змянілася не адно пакаленне, а няшчасных на зямлі менш не становіцца.

Усеагульны дабрабыт і шчаслівае жыццё 80 год будавалі камуністы. Магчымасці былі бязмежныя. У іх руках знаходзілася ўлада, вялізны ідэалагічны апарат і апарат прымушэння, а няшчасных людзей было больш, чым пры царызме. Нельга ніякай сілай зрабіць чалавека шчаслівым, а вось няшчасным працей прастога.

# Парушэнне Правілаў рыбалоўства можа прывесці да сур'ёзных непрыемнасцяў з законам

**Восень пераадолела свой экватар, аднак, дні стаяць адносна цёплыя і рыбаловы працягваюць актыўную рыбалку, у тым ліку падводную, тролінгам.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

У сувязі з чым, лічым неабходным нагадаць, што і на рыбалцы неабходна выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь. Да прыкладу, нельга лавіць рыбу больш чым на 10 кручкоў адначасова, без наяўнасці дзеючага білета рыбалова, кідаць смецце на бераг, ажыццяўляць пад'езд на механічных транспартных сродках да берагавой лініі вадаёма бліжэй, чым за 30 метраў, ажыццяўляць лоўлю рыбы, на якую ўведзена забарона ў дадзены перыяд, лоўлю рыбы ў якасці прынады для лоўлі іншых відаў рыбы не больш за 30 штук на аднаго рыбалова ў суткі, можна выкарыстоўваць багорык з шырынёй кручка (адлегласць ад цаўя да вострага джала) не больш за 9 см.

Лоўля рыбы спосабам тролінга дазволена амаль на ўсіх вадаёмах, аднак, грамадзянін пры тролінгу абавязаны выкарыстоўваць толькі адзін спінінг, а вось гэтае правіла вельмі часта парушаюць рыбаловы, выкарыстоўваючы 2-3, а часам і 5 спінінгаў. Парушэнне дзеючых Правілаў можа прывесці да сур'ёзных непрыемнасцяў з законам, штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй лодкі, матора і прылад рыбалоўства.

Пастановай Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання Рэспублікі Беларусь ад 19 траўня 2014 года №22 (у рэдакцыі ад 29.03.2016) усталяваны пералік рыбалоўных угоддзяў, якія складаюць фонд запасу, у якіх рыбаловы, якія з'яўляюцца сябрамі рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання "БТПР" не маюць права на аматарскае рыбалоўства наступнымі спосабамі: – лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, – падводнае паляванне.

Гэта значыць, нават пры наяўнасці рыбалоўнага білета рыбалоў не мае права ажыццяўляць лоўлю рыбы дадзеным спосабам на наступных вадаёмах на тэрыторыі Глыбоцкага раёна:

воз. Алойзберг, воз. Бяглец, воз. Белае ў в. Бабруйшчына, воз. Гінькава, воз. Доўгае, воз. Белае ў в. Івесь, Шо.

На ўсіх астатніх вадаёмах раёна можна свабодна лавіць рыбу вудамі і жэрліцамі з агульнай колькасцю кручкоў не больш за 10 штук (9 жэрліц і 1 вуда), аднак, тролінг, толькі адным спінінгам.

Нагадваем усім рыбало-вам-аматарам аб строгім захаванні правіл рыбалоўства, вылава асобных відаў рыбы, якія не дасягнулі прамысловай меры, напрыклад, шчупак не менш за 40 см, а таксама вага вылаўленай рыбы не павінна перавышаць норму – 5 кг у суткі на аднаго рыбака. За вылаў рыбы, што не дасягнула прамысловай меры, альбо вага якой перавышае вызначаную правіламі норму, надыходзіць адміністрацыйная адказнасць па ч.2 арт. 15.35 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях Рэспублікі Беларусь ад папярэджання да 20 базавых велічынь з кампенсацыяй шкоды.

Просьба да рыбаловаў-аматараў – не карыстайцеся рознымі чуткамі, усю неабходную інфармацыю Вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі, пры змене дзеючых Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ці іншага заканадаўства, якое рэгламентуе дадзеныя правілы, уся інфармацыя будзе размешчана ў сродках масавай інфармацыі. Паспяховай усім рыбалкі!

**Пра ўсе парушэнні можна паведамляць на тэлефон "гарачай лініі": 8-02156-2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Пра тое, як багацей бядноту шукаў

Было гэта даўно. Мне бабуля расказвала, а ёй – таксама бабуля.

Адзін чалавек жыў вельмі заможна. Вядома ж, да пана не дацягнуў: з мужыцкага быў роду. Але бедным не спагадаў. Як кажуць, сыты галоднаму не сябар. І ящчэ: не дай Бог свінні рог, а мужыку панства.

Вясной ці ў неўрадлівыя гады прыходзілі да яго бедныя прасіць у доўг жыта, каб хлеб спячы. Наймаліся на працу і казалі: “Мацей, беднота да нас прыйшла, дапамажы”. Багаты мужык вельмі здзіўляўся: “Якая такая беднота? Чаму да мяне не прыходзіць? Пэўна, залагодзіць бядноту зерня просяць, лепш гналі б яе прэч”.

У Мацея да новага ўраджаю жыта і пшаніцы заўсёды хапала і на чорны, і на белы хлеб. Хлявы былі запоўнены жывёлай, грошы лічыць не меў патрэбы – пахаваў, пазашываў у пярыны. Адзення ў куфрах хапіла б на некалькі жыццяў. Вось толькі засела ў галаве думка пра бядноту. Жонцы казаў неаднойчы: “Як бы на тую бядноту, што ходзіць па людзях, паглядзець? Ці, можа, выправіцца пашукаць яе?” Жонка была разумнейшая і стрымлівала свайго гаспадара: “Пачакай крыху, яна абавязкова і да нас прыйдзе, затрымалася дзесьці”.

Памерла жонка, застаўся Мацей адзін. У роспач не кінуўся, багацце не збыў і вырашыў, нарэшце, рушыць у дарогу, каб пашукаць бядноту. Сабраў вялізную торбу харчоў, грошай за пазуху напіхаў, абуўся ў хромавыя боты, з куфра верхняе адзенне з добрага сукна, а не з якой там рабізны, дастаў. На гаспадарцы пакінуў памочніка, даў наказ: “Сцеражы дабро пільна, вярнуся, як толькі пабачу бядноту”.

Адышоў колькі вёрст ад сваёй сялібы, убачыў: сяляне ў полі працуюць. Папытаўся: “Ці бачылі вы, людцы, бядноту?” Адны ўсміхнуліся, палічылі яго за дзівака. “У лес пайшла”, – адказалі. Іншыя ж ўспрынялі пытанне, як кпіны з іхняй гаротнасці, ледзь не збілі. Даў Бог ногі, уцёк.



І вось увайшоў гэты цікаўны Мацей у густы і цёмны лес, куды і пайшла беднота. “Вось тут я, мабыць, і сустрэнуся з ёй”, – узрадаваўся мужык. Сеў на імшок, расклаў на пні харчы. А ў гэтым лесе рабаўнікі палявалі на падарожнікаў, абіралі іх, добра, што жывымі пакідалі. Падпільнавалі яны і Мацея.

Бачыць ён, з ельніку ўтрох выйшлі, наляцелі, як каршуны, адабралі грошы, харчы. “Людзі добрыя, - узмаліўся Мацей, – што я вам благога зрабіў, іду бядноту шукаць, можа, вы яе бачылі?” “Зараз мы табе пакажам бядноту, – з’едліва запэўнілі рабаўнікі, – больш не захочаш яе шукаць. Здымай адзежу і боты!”

Пакінулі рабаўнікі Мацея толькі ў споднім, абулі ў лапці і хутка зніклі ў густым ельніку, адкуль нечакана з’явіліся. Сядзіць мужык на пні і разважае: “Абадралі, як ліпку, а бядноту не паказалі, хоць і абяцалі”.

Вяртаўся ён дадому амаль голы, добра, што далёка не паспеў адысці. У канавах хаваўся, у кустах, калі паблізу людзей бачыў – сорамна было: засмяюць. Прыбіўся ён, нарэшце, да сваёй сялібы. І што ён убачыў! Тыя, а мо іншыя рабаўнікі, вынеслі ўсё дабро, нажытае за доўгія гады. Нават злы сабака не дапамог, атруцілі. Работніка збілі і звязалі. Сеў мужык на прызбу, шкада было свайго багацця.

“Рукі, ногі цэлыя, а багацце справа нажытная, – думаў ён, – больш за ўсё шкада, што бядноту не змог пабачыць, так яна да мяне і не прыйшла”.

Што напісана пяром, не высечаш тапаром. Так і глупства з галоваў іншых людзей абухом не выб’еш. Пра іх у народзе кажуць: “Абухаватыя”.

*Літаратурная апрацоўка*
***Людмілы Ардынскай***

*Запісана*
*ад **Ядзвігі Феліксаўны Плоскай** (84г),*
*в. Грыбоўшчына,*
*Шаркоўшчынскі р-н*

# У Беларусі за суткі загінулі два “пешалёжы”

**У Беларусі за мінулыя суткі пад коламі аўтамабіляў загінулі два чалавекі, якія ў момант наезду ляжалі на дарозе.**

Аварыі са смяротным вынікам адбыліся ў Віцебскай і Гомельскай абласцях.

У 02.05 паблізу вёскі Шаркоўка Лепельскага раёна 42-гадовы кіроўца DAF, грамадзянін РФ, ехаў па трасе М3 Мінск – Віцебск у напрамку Віцебска. У раёне 160-га кіламетра дарогі ён учыніў наезд на 29-гадовую жыхарку вёскі Бачэйкава Бешанковіцкага раёна, якая ляжала на праезджай частцы.

У выніку наезду жанчына атрымала цяжкія траўмы і была дастаўлена ў бальніцу, дзе ў 05.00 памерла. У ДАІ адзначылі, што пешаход два разы прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні ПДР у стане ап’янення.

Другая аварыя са смяротным зыходам адбылася ў 21.50 паблізу вёскі Капань Рэчыцкага раёна. Там пад коламі загінуў мужчына, які ляжаў на дарозе.

Па факце наездаў праводзяцца праверкі.

Нагадаем, у канцы верасня намеснік старшыні Вярхоўнага суда Руслан Аніскевіч паведаміў БЕЛТА, што суд не лічыць неабходным апрыёры здымаць адказнасць з кіроўцаў за наезд на ляжачага на дарозе пешахода.

“У кожным канкрэтным выпадку следства і суд абавязаны высветліць, калі для вадзіцеля паўстаў момант небяспекі і ці мог ён пазбегнуць наезду. Калі не будзе ўстаноўлена яго віна, то, вядома, ён не можа быць прыцягнуты да адказнасці. Але ставіць пытанне менавіта так, што трэба зняць адказнасць у прынцыпе нейкім валявым рашэннем для ўсіх, будзе некарэктна”, – сказаў намеснік старшыні Вярхоўнага суда.

Ён дадаў, што ў гэтым выпадку павінны быць высветлены ўсе абставіны справы, агульных рэкамендацый тут быць не можа.

*Паводле tut.by*

## МНС інфармуе
**на 01.11.2016 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 576;
Гібель людзей – 61, з іх 1 дзіця;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма
За 2015 год у раёне адбылося 36 пажараў, на якіх загінулі 3 чалавекі.

# Забітая казуля абышлася браканьерам больш чым у 7 тысяч рублёў



**Службовае відэа, знятае супрацоўнікамі прыродаахоўнай інспекцыі, стала галоўным доказам супраць браканьераў, якія падстрэлілі казулю ў Докшыцкім раёне.**

Калі сезон палявання быў закрыты, інспектары, якія праводзілі рэйд каля вёскі Крулеўшчына, пачулі стрэлы ў лесе і неўзабаве выявілі чатырох браканьераў са стрэльбамі і з мясам разабранай казулі. Трое кінуліся наўцёкі, а той, што застаўся, па словах Сяргея Захарэвіча, начальніка Бягомльскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету, імёны парушальнікаў не стаў хаваць да аператыўна-следчай групы Докшыцкага РАУС, якая прыехала па выкліку:

– Больш за тое, усе ўдзельнікі незаконнага палявання былі зафіксаваныя на службовую відэакамеру. Дзякуючы відэаматэрыялам нікому не ўдалося сысці ад адказнасці.

Усе парушальнікі – мясцовыя: пенсіянеры і работнікі сферы ЖКГ. Супраць дваіх спачатку распачалі крымінальныя справы па артыкулах Крымінальнага кодэкса “Незаконнае паляванне” і “Транспарціроўка і раздзелка жывёлы”. Аднак раскаянне і супрацоўніцтва са следствам дазволіла ўсім абысціся грашовымі выплатамі. У выніку стралок, які забіў казулю, заплаціў кампенсацыю – каля 4 тысяч рублёў. Затрыманы на месцы аштрафаваны на 630 рублёў, а ўцекачы, што не падпарадкоўваліся службовым асобам, раскашэліліся на 840 рублёў. Таксама яны на год пазбавіліся права паляваць.

*sb.by*

# У Шаркоўшчыне ў чацвёрты раз будуць высылаць аднаго і таго ж мігранта з Расіі

**З Шаркоўшчынскага раёна ў чацвёрты раз будуць высылаць расіяніна, які, нягледзячы на афіцыйную дэпартацыю, раз за разам сюды вяртаецца. Хлопцу – 25 гадоў. Яго бацька жыве ў Расіі, маці – у Шаркоўшчынскім раёне, піша «СБ Беларусь Сегодня».**

Упершы раз маладога чалавека выслалі за межы краіны за парушэнне беларускага заканадаўства – яго злавілі п’яным за рулём. Вызначылі канкрэтны тэрмін, на працягу якога ён не мае права прыязджаць у Беларусь. Але расіянін вярнуўся нашмат раней і зноў трапіўся ў поле зроку міліцыі - гэтым разам жыў тут па несапраўдным пашпарце. Яго зноў затрымалі.

Падрабязнасці распавяла намеснік пракурора Шаркоўшчынскага раёна Лена Драгель:

– Першы раз у дачыненні да маладога чалавека распачалі адміністрацыйную справу. Потым ўжылі дэпартацыю. А калі ён прыехаў у трэці раз, распачалі ўжо крымінальную справу – за знаходжанне ў краіне высланай асобы да заканчэння тэрміну забароны ўезду. Асудзілі да двух месяцаў арышту. Пасля іх заканчэння супрацоўнікі міліцыі зноў павезлі яго да мяжы. Для пацверджання дэпартацыі сфатаграфавалі за слупком на расійскай тэрыторыі.

На здымку, які фігуруе ў цяперашняй крымінальнай справе, расіянін махае рукой сваім суправаджаючым.

Але праз два месяцы ён зноў з’явіўся ў адной з вёсак Шаркоўшчыны. Гэта значыць зноў парушыў закон. Зараз па рашэнні суда ён правядзе ў калоніі год і тры месяцы.Пасля гэтага яго зноў выправодзяць з краіны на пэўны тэрмін.

*sb.by*

